


# PREVIOUSLY IN THE ULTIMATES:

Каманда Алцімэйтс даведалася пра існаванне іншаземнай расы, якая мае здольнасць змяняць форму... Чытаўры жылі на Зямлі на працягу сотняў гадоў і не былі заўважаны людзьмі. Цяпер яны ўзмацніліся і рыхтуюць уварванне, якое прывядзе да поўнага знішчэння чалавецтва. Алцімэйтс з 50000 войскам, якое складаецца з сілаў "Абароны" і арміі ЗША, рыхтуюцца да высадцы на базе іншапланецян у Мікранэзіі.

Тым часам Аса застаецца пад медыцынскім наглядам з-за цялесных пашкоджанняў, якія нанес ёй яе муж Волат. Капітан Амерыка ўзяў на сябе пошук і пакаранне Волата, які знік пасля спрэчкі з жаной. У той час як Нік Ф'юры і тысячы салдат накіроўваюцца ў паўднёвыя моры Ціхага акіяна, каб прадухіліць уварванне, Капітан Амерыка прыбыў у Чыкага, каб правучыць Хэнка Піма...




Stan Lee presents:

# THE ULTIMATES

Mark Millar story
pencils Bryan Hitch
Paul Neary inks
Paul Mounts colors
Chris Eliopoulos letters
Stephanie Moore assistant editor
C.B. Cebulski associate editor
Brian Smith associate editor
Ralph Macchio editor
Joe Quesada editor in chief
Bill Jemas president & inspiration


Што паказваюць па тэлевізары, Пім?
Штосьці цікавае?
POLO JEANS


BODDINGTONS
PUB ALE
Мяркуючы па ўсім, Джэнэт Пім стала лепш, Дэйв, аднак «Абарона» дагэтуль адмаўляецца пацвердзіць ці аспрэчыць **дачыненне** яе мужа да нападзення на яе.


Паліцыя падкрэслівае, што сувязь паміж Волатам і гэтым злачынствам яшчэ **не даказана**. Але, верагодна, ужо заўтра ў ранішніх газетах мы прачытаем...
...гісторыю пра **дамашні гвалт** і **залежнасць ад лекаў**. Каб здагадацца, што здарылася на самой справе, ня трэба быць геніем...


Проста нейкае супадзенне **касмічных маштабаў**.


Пойдзем, пагутарым на вуліцы, брудны выродак.
Кэп, дзеля бога! Давай сядзем, вып'ем, і я табе патлумачу, што **здарылася**!


Я сказаў, **на вуліцу**, злыдзень!


Лічыш, ты **круты** мужык? Падабаецца **біць** людзей, так? Ну, паспрабуй удa-рыць **мяне**! Паглядзім, як ты зладзіш з чалавекам **аднаго з табой росту**!
Кэп, калі ласка, я і так гатовы **памерці ад сораму**!




Кэп, дзеля бога, у мяне залежнасць ад **антыдэпрысантаў**...
KEEP


DAN
KEEP


Стань вялікім! Я хачу біцца з **раўным** сабе!
Ашалеў? Ты жа не Джон Уэйн! Хочаш, каб нас абодвух **арыштавалі**, псіх?!


Добра.






Стань вялікім, пакуль я не выбіў табе ўсе зубы!


Так табе **падабаецца** ці яшчэ падрасці, прытырак?






У чым справа, Роджэрс?
Ужо ня хочаш біцца?




TOILETS


Жартуеш?


HURRK!


AGH!


Глупы малец! Кім ты сябе лічыш? Вырашыў, што можаш залятацца да маёй жаны і вучыць мяне, як жыць?


Я табе за гэта твар наб’ю!






Я ВЫБ'Ю З ЦЯБЕ УСЕ ТВАЕ МАЗГІ!


Не, не атрымаецца...




UNGGH!


Наступныя тры месяцы ты будзеш насіць **гіпс**!












Язык праглынуў?


ТРЫКСЕЛІЁН:
НЮ-ЁРКСКІ ШТАБ ПРАГРАМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БЯСПЕКІ ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ЗВЫШЛЮДЗЕЙ. ПОЎНАЯ БАЯВАЯ ГАТОЎНАСЦЬ.

RESCUE

Капітан Амерыка **зламаў сківіцу** Хэнку Піму?
Ты **сур'ёзна**?













І дзякуй за DVD. Некалькі фільмаў я яшчэ **не глядзеў**.
Няма за што.


Дык што там за гісторыя з **іншапланецянамі**? Дзяжурны з начной змены сказаў мне, што аддзел тэлепатаў і тэхнікаў працуюць без перапынкаў. Што **адбываецца**?


Сапраўдная **вайна светаў**. Усе падраздзяленні пераведзены ў баявую гатоўнасць, і мы толькі што абвесцілі поўную **інфармацыйную блакаду** смі.
Відаць, гэтыя перэваратні, **чытаўры**, ці як там іх, укаранілі сваіх агентаў на ключавыя пасады па ўсім свеце.
Магчыма, іх армія недастаткова шматлікая, каб падпарадкаваць нас, але ў мяне ёсць сведчанні, што яны **дзесяцігоддзямі** планавалі **паступовы захоп свету**.


У сэнсе?
Дакладнай інфармацыі пакуль няма. Толькі розныя чуткі: ад **сабатажа ядзернай праграмы** да спробы **пашкодзіць** нашу **нерво-вую сістэму** з дапамогай **штуч-ных заменнікаў цукру**.


Кажуць нават, што гэтыя босы са смі распаўсюджваюць **жудасныя, паранаідальныя гісторыя** аб **небяспецы**, якой нібыта падвяргаюцца нашыя дзеці.


Ведаю, гэта шаленства, але ходзяць плёткі, быц-цам існуе нейкі план, згодна якому ўсім дзецям будуць імплантаваны **мікрачыпы**, каб яны сталі **падпарадкоўвацца іншапланецянам**.


Але, як я ўжо сказала, усё гэта толькі здагадкі, і, магчыма, яны акажуцца поўным трызненнем, але, мне здаецца, усё гэта не на пустым месцы, Брус.


Дагэтуль не магу паверыць, што гэтую інфармацыю раскрылі. Калі я кіраваў праграмай «Суперсалдат», мне толькі **намякалі** на існаванне іншапланецян.
І **як** жа мы будзем з імі **змагацца**?


Тэлепаты даследвалі іх мозг, і цяпер «Абарона» апрацоўвае інфармацыю па дзесяткам гарадоў. Аднак самую буйную аперацыю яны плануюць сёння ў **Мікранэзіі**.


У іншапланецян там **база**?
Не толькі база... але і цэлы **ваенны комплекс**, які займае тэрыторыю ў дваццаць квадратных міль і незаўважны для радараў. Там змяшчаюцца **тысячы салдат і зброя масавага знішчэння**, аб існаванні якога нават не хочацца ведаць.
Вось чаму Ф'юры збіраецца **асабіста кіраваць** дэсантнымі войскамі замест таго, каб проста разбамбіць іх.


Я, канешне, разуемю, што ў нас добрая выведка, але чаму гэтыя істоты аказаліся тут у **такой колькасці**?
Я чуў, што нават у перыяд іх росквіта з нацыстамі працавалі толькі **пяцьдзесят** ці **шэсцьдзесят** чытаўры. Адкуль астатнія павылазілі?


Толькі між намі, Брус, дарагі, кажуць, яны толькі нядаўна абудзіліся ад **спячкі**.

СТАРТАВАЯ ПЛЯЦОЎКА
ЖАЛЕЗНАГА ЧАЛАВЕКА:
ЗА ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ПЕРАД ЗАПУСКАМ.

Скажы мне, Наташа... Ты ж дасведчаны баец, як лічыш, ці ёсць у мяне **шансы** вярнуцца цэлым і хаця б адносна непашкоджаным?

Шчыра кажучы, я рэдка маю справу з **прышэльцамі з іншых планет**, містар Старк. Мой досвед у гэтай галіне абмяжоўваецца размовамі са **страхавымі агентамі**.









Адзінае, што нервуе мяне ў гэтых сумесных аперацыях, дык гэта неабходнасць неяк **бавіць час**, пакуль танкуюць самалёты і ўсё такое.

Нам жа ніколі не паказваюць, як, напрыклад, **Дэймс Бонт** стаіць і чытае часопіс, а працоўныя бегаюць вакол і правяраюць яго дасканалую тэхніку.

Калі шчыра, я нават не ўпэўнены, што ўдзел Жалезнага чалавека будзе **пацверджаны** пасля надаўніх праблем з **сілавымі палямі**.

Ты нават **не ўяўляеш**, як часта мяне падводзіла гэтая мадэль. Ты ведаеш, што акцыі «Старка» **падаюць** у цане кожны раз, калі паяўляюцца мае здымкі ў гэтая брані?

Добра, што аперацыя з іншапланецянамі не патрапіць **у газетныя шапкі**.

Канешне, пры ўмове, што мы **зможам** зладзіць з гэтым дурдомам, сяброўка.

Паслухай, я не хачу вучыць цябе, як жыць, але ты сапраўды лічыш, што **разумова** піць столькі водкі перад палётам на гэтай штуке?

Яшчэ як, даражэнькая. Скажу больш, гэта проста **неабходна**...

Хто **цвярозы** пагадзіцца ўлезць у **гэта**?


ШПІТАЛЬ:


Джэнэт?


О божа...
Слухай, калі я не ў той час, я магу прыйсці пазней.


Не, я **заўсёды** табе рада, Сціў. Што здарылася?


Я прыйшоў **наведаць** цябе. Праз гадзіну мы ўлятаем на заданне ў **Мікранэзію**, а дактары сказалі, што ты ўжо **прыйшла ў свядомасць**. Вось я і прынес табе трохі гасцінцаў.


Медсёстры кажуць, што ты хутка ідзеш на папраўку. Нік Ф'юры ўсім паведаміў, што ўсё добра, і ты ўжо праз **шэсць тыдняў** зможаш вярнуцца ў каманду.
Ён ашалеў? Лічыш, я змагу выйсці на публіку пасля ўсіх гэтых **зневажэнняў**?


Я папрасіла перавесці мяне ў даследчы цэнтр «Абароны» ў Дзюсельдорфе.
Я вырасла на вайсковай базе і добра размаўляю па-нямецку. І калі я скончу з супергеройскай кар'ерай, маё імя больше не будуць церабіць у прэсе.


Што? Ты сапраўды збіраешся ад усяго адмовіцца з-за таго, што зрабіў з табой Хэнк? Ты ж ні ў чым не вінавата, Джэн!
Ох, толькі ня трэба суцяшаць мяне, добра? Я ўжо мільён раз чула гэта...


І што ты хочаш сказаць гэтымі сваімі візітамі і падарункамі? Хочаш мне спадабацца? Лічыш, паколькі ты збіў майго мужа, я цяпер стану тваёй?
Канешне, не!


Вось і добра. Бо колькі б ты ні рабіў з сябе дурня, спрабуючы стаць рыцарам, нашыя праблемы з Хэнкам гэта не вырашыць.


Зараз не сорак пяты, Сціў. І такімі ўчынкамі нічога не выправіць.


Джэн, прабач, я толькі...
Ты што, не бачыш, у якім я стане? Я павінна зараз адпачываць як можна больш, а ты прыходзіш і засмучаеш мяне. Лічу, табе лепш **уйсці**, Сціў...

...і **забяры** свае падарункі.

Усё ў парадку, мэм. Можаце заставіць іх сабе.





Так, так, так. Рады, што ты з намі, Капітан. Ну што, гатовы яшчэ раз пазмагацца за сваю краіну, сынок?
Зараз я такі засмучаны, што магу самастойна знішчыць усіх гэтых істот, генерал. Толькі скажыце, дзе яны.


Менавіта гэта я і жадаў пачуць... Вось чалавек, які ганарыцца сваёй працай. Ты ўжо чуў, што Ртуць і Пунцовая ведзьма не ляцяць з намі?
Уяўляеш, гэтыя баязліўцы вярнуліся дадому толькі таму, што ў іх болі ў грудзях і, быццам бы, бранхіт.
Каб зберагчы грудзі Ванды, я гатовы аплаціць ёй любы хварабовы ліст, які яна толькі папросіць, Нік!


І дарэчы, мне абавязкова ляцець з адной хуткасцю з гэтымі самалётамі?
Трымайся вертаносца, містар мільярдэр. Табе трэба захаваць энергію для бітвы ў Мікранэзіі.


Генерал, я мог бы перапраўіць туды першы атрад. М'ёльнір здольны за раз тэлепарціраваць ад сарака да пяцідзесяці чалавек.
Не. Будзем прытрымлівацца плана, Тор. Спадзяюся, што мы зможам ударыць усе разам і адначасова. Але цябе я накірую туды прама зараз, каб ты мог зарыентавацца на мясцовасці.


Як скажаце.




LEAR


З чаго ты **ўсмехаешся**?
З усяго. Смешна ж, праўда?


Некалькі гадоў назад у «Абароне» народу было - ты ды я.
А зараз ты накіроўваеш **бога грома** змагацца з **іншапланецянамі** і раздаеш загады **Капітану Амерыка**. Гэта так файна, што і на **словах не перадаш**.


Гэта **проста файна**. І ня трэба іншых слоў.


А цяпер -
за працу!
To be continued...
Reading Comics online: VIEWCOMIC.COM

# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(MARVEL, 2015)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго нздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.












# ВЯДЗЬМАР. ДОМ СА ШКЛА

(Dark Horse, 2014)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Tobin, Querio.**
Вандруючы каля Чорнага леса Геральт сустракае самотнага паляўнічага. Аказалася, што той калісьці аўдавеў, але яго жана засталася ў свеце жывых. Уцякаючы ад лесавіка вядзьмар са сваім новым сябрам трапляюць на Дом са шкла...







TOM 1.

# ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ

(IDW PUBLISHING, 2011)






**Teenage mutant ninja turtles. TPB 1 (#1-4). Change is Constant**
**(c) Kevin Eastman, Tom Waltz, Dan Duncan**
**(c) IDW Publishing, 2012**
**Чарапашкі-нінзя. Том 1 (№1-4). Змены гэта сталасць**
**Пераклад на беларускую мову - Сяргей Козыраў, 2012**
**ComicsBY, Гомель, 2022**
**Другая рэдакцыя**

Чарапашкі-нінзя вяртаюцца ў коміксы ў сваёй першай прыгодзе IDW! Для Чарапашак гэта іншы свет... Група падзелена: Рафаэль блукае па вуліцах Нью-Ёрка ў пошуках ежы і сховішча, а яго браты і майстар Сплінтар займаюцца пошукамі згубленага брата, але пакуль усё, што яны могуць знайсці, гэта непрыемнасці ў выглядзе валачашчага ката-мутанта Старога Нячысціка і яго банды злачынцаў!
Далучайцеся да Тома Вальца, Дэна Данкана і аднаго са стваральнікаў TMNT Кевіна Істмана, каб пачаць дзікае падарожжа!



**Kevin Eastman**



**Tom Waltz**




ТОМ 1.

# ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ

(IMAGE COMICS, 2003)





**The Walking dead. TPB 1 (#1-6). Days Gone Bye**
**(c) Robert Kirkman, Tony Moore**
**(c) IMAGE COMICS, 2004**
**Хадзячыя мерцвякі. Том 1 (№1-6). Дні мінулыя**
**Пераклад на беларускую мову - Алена Васількова**
**ComicsBY, Гомель, 2012**
**Другая рэдакцыя**

Рык Грэймс не быў гатовы да гэтага. Пару месяцаў назад ён быў паліцэйскім з маленькага гарадка, які ні разу не страляў і бачыў мёртвае цела толькі раз у сваім жыцці.
Разлучаны са сваёй сям'ёй, ён цяпер павінен разабрацца са смерцю і замяшаннем, каб паспрабаваць знайсці сваіх жану і сына.



**Robert Kirkman**



**Tony Moore**

# СТАНЬ ЧАСТКАЙ НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НА PATREON

www.patreon.com/comicsby

Твой удзел дапаможа нам праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў на patreon:

### Чытач

**1 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Калі ты сапраўдны **ЧЫТАЧ**. Даступны нашы рэлізы на месяц раней, чым у сацыяльных сетках і артыкулы пра коміксы і іх герояў.

- На 1 месяц раней, чым усе
- Артыкулы

### Афіцыйны патрон

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Цяпер **АФІЦЫЙНЫ ПАТРОН** атрымлівае спасылку на **рэліз новых серый на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак. Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «**Цуда-жанчына**», «**Дарт Вэйдар**», «**Вядзьмар**», «**Чорны молат**», «**Дэпартамент праўды**» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці афіцыйных патронаў. Таксама афіцыйным патронам даступны «Дзённік перакладчыка» і «Планы».

- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

### Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**ПАТРОН З ПАДПІСКАЙ ПРЭМІУМ** атрымлівае ўсё тое, што і Афіцыйныя патроны, але... Для патронаў з падпіскай прэміўм мы плануем публікацыю эксклюзіўных матэрыялаў.

- Эксклюзіўныя матэрыялы
- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

## Нашы мэты:

**100 патронаў** -
мы наймем перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
мы створым выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
наша выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.